# ПРАВА ВЕСНІК АБАРОНЧЫ

КРАСАВІК, **2012**

ГОМЕЛЬСКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ



**Камітэт ААН па правах чалавека зарэгістраваў скаргу гомельскіх праваабаронцаў**

СТАР. 4

**Гамяльчук патрабуе маральнай кампенсацыі ад міліцыі**

СТАР. 4




*У адным з першых ужо “атрадных” лістоў з бабруйскай калоніі праваабаронца апісвае новыя рэаліі, да якіх ён паступова прызвычайваецца. Распавядае пра ўсё, як заўжды, з тонкай самаіроніяй і ўменьнем трапна падмеціць у любых жыцьцёвых абставінах пацешныя сітуацыі і персанажаў.*




## Алесь Бяляцкі: Базавая велічыня стала **100 тысячаў**, і адзіныя, хто гэтаму радыя, мабыць, **зэкі**!

***У лісьце ад 2 красавіка Алесь Бяляцкі піша, што ўжо другі тыдзень як ён пераведзены ў 14-ты атрад выпраўленчай калоніі №2 Бабруйска:***

“Тут зноў іншая сітуацыя, чым у каранціне. Атрад працоўны, адпаведна і рэжым прыстасаваны да 1-й ці 2-й зьмены працы. Мінулы тыдзень была 1-я зьмена, значыць пад'ём быў у 5:30, а ў 6:10 мы ўжо ішлі на сьняданак. Затым праверка, і ў 8:00 мы ўжо былі на “промцы”. На гэтай “промцы” ёсьць “швейка” швачны цэх. Вось туды я і хаджу. Напачатку мяне прызначылі ў вучні ўпакоўшчыка. Два дні я пахадзіў, ужо і пакаваць навучыўся рукавіцы. Засталося засвоіць упакоўку рабочых робаў, якія тут таксама шыюць, як раптам прыйшло іншае указаньне пасадзіць мяне за швачную машыну. Ну а мне дык што, за машыну дык за машыну. Адно, што адтуліну ў іголцы я ўжо бачу слаба… Сеў першы раз у жыцьці, паддаў газку і паехаў пастрачыў, як сьляпы кулямётчык. Страчу-страчу, а куды ня бачу. У суботу ўжо сшываў нейкія працоўныя бярэты. Спадзяюся, што іхнія атрымальнікі ня будуць моцна мацюгацца на мяне”.

У вольны час, якога за ўсімі справамі застаецца ня шмат, Алесь піша лісты на волю і чытае. Напрыклад, выходнага дня хапае і на класічныя раманы, а “патрошку перад сном” Марыну Цьвятаеву, якую называе “вельмі літаратурнай паэткай”.

Аднак паэзія мяжуе з прозай жыцця:

“Заўтра будзе першая мая тут атаварка. Ужо па новых мерках [паводле КВК РБ, які рэглямэнтуе правы асуджаных, ёсць магчымасьць “штомесяц расходваць на набыцьцё прадуктаў харчаваньня і прадметаў першай неабходнасьці грашовыя сродкі з асабовых рахункаў у памеры пяці базавых велічынь”]. Базавая велічыня стала 100 тысячаў, і адзіныя, хто гэтаму, мабыць, радыя, дык гэта зэкі…” З іроніяй пераходзячы ад “дробных бытавых праблемак” да “зацяжной вясны”, Алесь паглядае ў вакно: “На вуліцы мяце сухі сьняжок і вецер ганяе па чорным асфальце белыя зьмейкі. У каранціне днямі тупалі па “лакалцы” на веснавым сонцы. А зараз ізноў сонца няма ці яно рэдкае”.

З тугою па “Вясьне” і спадзяваньнямі на лепшае Алесь Бяляцкі перадае прывітаньне ўсім знаёмым. Ён кажа: “Да пабачэньня”.

**Праваабарончы цэнтр “Вясна”**

## “ПАЛІТЫЧНЫЯ”: кропкі над “і”

У лютым партыйныя актывісты заявілі пра неабходнасць стварэння экспертнай Рады па вызначэнні палітвязняў. Адмыслова створаная каардынацыйная група “За волю” распачала правядзенне тэматычных круглых сталоў, дзе паўстала пытанне пра адзіны спіс “палітычных”.

Ёсць разыходжанні паміж грамадска-палітычнымі актывістамі і прадстаўнікамі праваабарончых арганізацый у поглядах на крымінальныя справы Аляксандра Крутога, Юрыя Чыгілейчыка і Аляксандра Малчанава. Прэтэнзіі да праваабаронцаў што яны адмовіліся ад гэтых трох “спрэчных кандыдатаў на палітвязняў”, зацягнуўшы з вызначэннем “сваіх”, “нацыянальных” крытэраў палітычна матываваных спраў былі агучаны на старонках “Новага Часу” ў артыкулах Тацццяны Шапуцька. З іх вынікае, што абурэнне скіравана ў асноўным на “афіцыйны” спіс палітвязняў на сайце “Вясны”, які група “За волю” лічыць няпоўным.


**(працяг на 2 стр.)**

# "ПАЛІТЫЧНЫЯ": кропкі над "і"

(пачатак на 1 стр.)

*Каб артыкуляваць усе важныя акцэнты ў справе прызнання-непрызнання "палітычных", намеснік кіраўніка "Вясны" Валянцін СТЭФАНОВІЧ прадстаўляе праваабарончы ракурс праблемы.*

**Спісы палітвязняў: нюансы**

Стварэнне адзінага спісу палітвязняў на сённяшні дзень галаўны боль не толькі беларускага грамадства. Так, пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года ва Украіне новая хваля палітычнага пераследу стала сур'ёзным выклікам украінскаму грамадству. Сёлета ў святле перадвыбарных пратэстаў гэтая тэма набыла вялікую актуальнасць у Расіі.

І ў кожнай з краінаў эксперты адзначаюць "неаднароднасць" спісаў палітычных вязняў і тлумачаць гэта тым, што ў параўнанні з савецкімі часамі змяняюцца прыярытэты і метады ўладаў. Тым самым ускладняюцца задачы для праваабарончай супольнасці патрабуецца больш дакладны і шматбаковы аналіз справаў, каб у кожным канкрэтным выпадку вылучыць палітычны складнік.

Уяўляецца відавочным, што "грамадскай" экспертызы ў такой сур'ёзнай справе недастаткова, нават калі на першы погляд усе карты сыходзяцца. Валянцін Стэфановіч лічыць, што манапольнага ключа на складанне спісаў палітвязняў не павінна быць ні ў кога, але разам з тым падкрэслівае важнасць прафесійнага падыходу да гэтай справы.

"Асноўнае - пытанне прафесійнай ацэнкі і падмацавання сваіх высноваў аналізам, канкрэтнымі фактамі, - кажа праваабаронца. - Я разумею, што палітычныя партыі і рухі могуць мець свой інтарэс у прызнанні асобы палітычным вязнем. Напрыклад, таму што ён іх сябра, яны не могуць яго кінуць, і па іншых прычынах. Але праваабаронцы ў гэтай сітуацыі павінны займаць абсалютна незалежную пазіцыю, не прымаць нейкіх кан'юктурных рашэнняў, незалежна ад таго, ад каго яны зыходзяць. Мы мусім імкнуцца называць рэчы сваімі імёнамі.

Прыклад 19 снежня: ніхто не казаў, што людзі, якія білі шкло Дома ўраду, абсалютна невінаватыя, мы казалі пра тое, што крымінальная справа, узбуджаная па артыкуле аб масавых беспарадках, з'яўляецца абсалютна непрапарцыйнай рэакцыяй уладаў, што ніякіх масавых беспарадкаў не было. Тое, што былі прыкметы іншых правапарушэнняў, мы не адмаўлялі. Пра такія рэчы трэба казаць абсалютна бесстаронне. Што тычыцца розных поглядаў і меркаванняў, то яны і павінны быць, напэўна. А што тычыцца "Вясны", то мы не складаем "афіцыйныя" спісы палітвязняў, як напісала Таццяна Шапуцька. Гэта спісы тых, каго прызнае палітвязнямі ПЦ "Вясна". Мы ўзгадняем сваю пазіцыі і з іншымі праваабарончымі арганізацыямі, у прыватнасці, з Беларускім Хельсінкскім Камітэтам, Цэнтрам прававой трансфармацыі, камітэтам "Салідарнасць" і іншымі калегамі. І калі ў спісе на нашым сайце "клікнуць" на прозвішча палітвязня, то можна прачытаць кароткі аналітычны агляд яго справы, дзе тлумачыцца, чаму мы робім выснову пра палітычны кантэкст яго справы. Але наша меркаванне часам не супадае з меркаваннямі палітычных суб'ектаў".

> "У шэрагу выпадкаў мы абсалютна спакойна і адразу можам кваліфікаваць справу як палітычна матываваную"

Як прыклад такіх несупадзенняў можна прывесці першую судзімасць сённяшняга палітвязня Мікалая Аўтуховіча: праваабарончы цэнтр "Вясна" не бачыў палітычнага матыва ў той крымінальнай справе і расцэньваў сітуацыю як звязаную з яго бізнесам, а палітык Аляксандр Мілінкевіч лічыў, што справа звязана з палітычным пераследам, і Аўтуховіч у звязку з гэтым быў у спісе палітвязняў. Ёсць і іншыя прыклады, калі рэзанансныя справы, патрапіўшыя ў цэнтр увагі грамадскасці (у тым ліку і ў дачыненні да грамадска-палітычных актывістаў), праваабаронцы не прызнавалі "палітычнымі".

"Так атрымалася са справай Андрэя Бандарэнкі, - распавядае Стэфановіч. - Мы не прыйшлі да канчатковай высновы пра выключна палітычны яе характар, хоць і не выключалі гэтага. Там быў адзін нюанс, які ўносіў сумневы: быў бачны асабісты след у стасунках паміж ім і былым партнёрам па бізнесу, які пазней правяраў фірму Бандарэнкі ўжо як супрацоўнік дзяржаўнага органа. Пры такіх абставінах было складана зрабіць выснову, ці была справа звязана з палітычным пераследам (таму што ён балатаваўся на выбарах і незадоўга да гэтага ўступіў у АГП). Але я абсалютна не хачу сказаць, што Андрэй Бандарэнка быў асуджаны справядліва, што не было ніякіх парушэнняў. І тое, што ён быў апраўданы ў рэшце рэшт, сведчыць, што ён быў асуджаны незаконна. Аднак незаконнасць асуджэння таксама не з'яўляецца дэфініцыяй палітычнай справы".

**Пра "нацыяналізацыю" крытэраў і небяспеку запазычанняў**

Пры больш-менш дакладным вывучэнні праблемы становіцца зразумела, што неабходнасць у выпрацоўцы нацыянальных крытэраў вызначэння "палітычных" справаў аб'ектыўна адсутнічае. Іх наяўнасць нават супярэчыла б прынцыпу універсальнасці, да якога імкнецца міжнародная праваабарончая супольнасць. Існуюць крытэры, выпрацаваныя аўтарытэтнымі міжнароднымі арганізацыямі інстытутамі Савета Еўропы, "Міжнароднай Амністыяй", Human Rights Watch. Беларускія праваабаронцы кіруюцца гэтымі крытэрамі (што бачна і з аглядаў крымінальных справаў на сайце "Вясны").

Праблема заключаецца крыху ў іншым: "У шэрагу выпадкаў мы абсалютна спакойна і адразу можам кваліфікаваць справу як палітычна матываваную, - тлумачыць Валянцін Стэфановіч. - Напрыклад, калі гэта звязана з рэалізацыяй чалавекам аднаго са сваіх грамадзянска-палітычных правоў і свабодаў свабоды асацыяцыяў, свабоды сходаў, свабоды меркаванняў і г.д. Ці калі ёсць відавочны палітычны матыў у дзеяннях асобы ці ў дзеяннях дзяржавы ў дачыненні да гэтай асобы. Але ёсць больш замаскіраваныя выпадкі палітычнага пераследу. Асноўная складанасць для праваабаронцаў заключаецца не ў крытэрах, а ўпадыходах, трактаванні гэтых крытэраў.

(працяг на 3 стр.)



# “ПАЛІТЫЧНЫЯ”: кропкі над “і”

(заканчэнне)

*Стэфановіч: “Зразумела, што кожная краіна спрабуе нейкім чынам пры гэтых падыходах адлюстраваць тыя нюансы, якія ёсць у гэтай краіне. І, канешне, мы мусім прыйсці да ўніверсалізацыі крытэраў і вызначэнняў, але, разумеем, што падыходы пры гэтым застануцца крыху адрозныя”. І ў гэтым крыецца небяспека сляпога запазычання ў тых жа расійскіх праваабаронцаў, “пакуль беларусы вызначацца са сваімі”.*

Тут патрэбна пільнасць, бо ў некаторых падыходах суседзяў заўважны адбітак гучных крымінальных спраў - “справы Хадаркоўскага” ў Расіі, “справы Цімашэнка” ва Украіне і інш. Напрыклад, украінскія праваабаронцы пішуць: “акрамя дыскрымінацыі па палітычных матывах тых, каго ўлада лічыць сваімі апанентамі, яна часам прыбягае да пераследу сваіх прыхільнікаў ці выканаўцаў сваіх рэпрэсіўных рашэнняў - у выніку ўнутраных спрэчак, непаразуменняў ці з мэтай замаскіраваць выбарачныя рэпрэсіі”. “Гэта сітуацыя, калі паміж ведамствамі пачынаецца нейкая “вайна” - тое, што у нас вельмі часта бывае паміж пракуратурай і КДБ, КДБ і МУС, - тлумачыць Стэфановіч.

- Аднак асабіста я да такога падыходу стаўлюся крытычна, бо такім чынам мы можам сказаць, што і Палудзень і Байкова таксама падпадаюць пад крытэры палітычных вязняў. То бок мы іх паставім на адну прыступку з асуджанымі па справе 19-га снежня Саннікавым, Бандарэнкам, Статкевічам, з Бяляцкім і іншымі палітвязнямі!” Расійскія праваабаронцы пры адным з падыходаў кажуць, што палітычны пераслед можа быць, калі “ажыццяўляюцца масавыя кампаніі па барацьбе з асобнымі відамі правапарушэнняў, якія здзяйсняюцца вызначанымі катэгорыямі ці групамі асобаў”. “У нашым выпадку гэта кампаніі па барацьбе з гандлем людзьмі, з наркаманіяй, з карупцыяй, дзе сапраўды вельмі шмат бывае парушэнняў і асуджэнні бываюць вельмі сумнеўныя, калі, напрыклад, адбываюцца правакацыі, - праводзіць аналогію Стэфановіч.

Напрыклад, цалкам падпадаюць пад вызначэнне палітвязняў “Міжнароднай Амністыі” “бабруйскія анархісты” - праваабаронцы патрабавалі перагляду іх спраў справядлівым судом, адзначаючы несправядлівы і неўсебаковы характар суду і відавочна непрапарцыйны характар прысуду.

Называючы іншыя прыклады, Валянцін Стэфановіч адзначае, што ў Беларусі ў прынцыпе не так часта інкрымінуюць у палітычных мэтах гвалтоўныя дзеянні. “Хоць такія выпадкі былі, але яны адрозніваліся тым, што (як нам падавалася) гэта асуджэнне па крымінальных справах, якія не мелі месца. Той жа Сяргей Парсюкевіч, якога абвінавачвалі ў гвалтоўных дзеяннях у дачыненні да супрацоўнікаў міліцыі, калі ён знаходзіўся ў ЦІПе. Але абставіны самой справы сведчаць пра тое, што ахвярай ужывання незаконнай фізічнай сілы стаў якраз сам Парсюкевіч, яго збілі супрацоўнікі міліцыі ў ізаляванай камеры. Калі па “справе 14-ці” людзей асудзілі за ўдзел у групавых дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак, Андрэя Кіма паралельна абвінавацілі ў гвалтоўных дзеяннях супраць супрацоўнікаў міліцыі. Аднак падчас суду ні адзін з відэаматэрыялаў не засведчыў, што Кім нанёс удар супрацоўніку міліцыі. Усё трымалася выключна на паказаннях міліцыі, і пры такіх абставінах мы лічылі, што віна Кіма не даказана, не ўстаноўлена судом. А ў асноўным палітвязні якраз ажыццяўлялі нейкае сваё права - без ужывання гвалту.

Той жа Сяргей Каваленка абвінавачаны ў хуліганстве і пагрозе гвалтоўных дзеянняў у дачыненні да супрацоўнікаў міліцыі. Але калі глядзець сутнасць справы, то супрацоўнікі міліцыі, якія чакалі яго ўнізе, калі ён злез з ёлкі, пачалі яго там затрымліваць і біць пры гэтым. Відавочна, не Каваленка здзяйсняў пагрозу гвалту, а ўсё было наадварот”, - тлумачыць праваабаронца.

http://spring96.org/

## У дзень расстрэлу Кавалёва беларускі МЗС пісаў Камітэту ААН пра прыпыненне выканання прысуду

Любоў Кавалёва, маці расстралянага Ўладзіслава Кавалёва, і яго сястра Таццяна Казяр атрымалі інфармацыю з Упраўлення Вярхоўнага камісара па правах чалавека. Дадзеная інфармацыя была накіравана прадстаўнікамі ўраду РБ пры аддзяленні ААН у Жэневе яшчэ 15 сакавіка 2012 года у той самы дзень, калі Ўладзіслаў Кавалёў быў расстраляны.

Прадстаўнікі Беларусі праінфармавалі Камітэт па правах чалавека аб тым, што наглядная скарга Кавалёва пададзена ў Вярхоўны суд, прэзідэнт разглядае яго прашэнне аб памілаванні. Пакуль гэта не будзе разгледжана, выкананне смяротнага прысуду будзе прыпынена.

У інфармацыі аспрэчвалася прымальнасць скаргі па справе Ўладзіслава Кавалёва, а таксама сутнасць прэтэнзій дадзенай скаргі.

Бліжэйшым часам маці і сястра накіруюць свае абвяржэнні гэтай некарэктнай і абуральнай інфармацыі ў Камітэт па правах чалавека.

http://spring96.org/



# Камітэт ААН па правах чалавека зарэгістраваў скаргу гомельскіх праваабаронцаў



Гомельскія праваабаронцы Анатоль Паплаўны і Леаніда Судаленка атрымалі з Жэневы паведамленне аб рэгістрацыі іх агульнай скаргі, паводле якой напярэдадні прэзідэнскіх выбараў 2010 года яны звярнуліся ў Гомельскі гарвыканкам за дазволам на правядзенне пікету, прымеркаванага да Дня правоў чалавека. Праваабаронцы жадалі звярнуць увагу выбаршчыкаў на іх права адмовіцца ад дэтэрмінаванага галасавання.

*Гарадскія ўлады масавае мерапрыемства не дазволілі. Раённы суд стаў на бок гарвыканкаму, а абласны суд зацвердзіў рашэнне раённага. Таксама і Вярхоўны суд, дзе абскарджвалі рашэнне праваабаронцы, не задаволіў іх скаргу. Такім чынам, унутраныя сродкі прававой абароны былі вычарпаны, засталося спадзявацца на міжнародную інстанцыю Камітэт ААН па правах чалавека.*

У скарзе заяўнікі звяртаюць увагу, што ў амаль 500-тысячным горадзе Гомелі ўлады вызначылі толькі адно месца для правядзення пікетаў і мітынгаў, а за правядзенне мірных сходаў грамадзяне, згодна рашэнню гарвыканкама, павінны яшчэ і заплаціць міліцыі, хуткай дапамозе і камунальным службам.

"Нам не зразумела, для дасягнення якой мэты абмежавана наша права на правядзенне мірных сходаў для выказвання свайго меркавання. Лічым, што забарона мясцовых уладаў на правядзенне мірных сходаў не з'яўляецца неабходнай у інтарэсах нацыянальнай бяспекі, грамадскага парадку, абароны здароўя, правоў і свабоды іншых асоб", - акцэнтуюць увагу праваабаронцы.

Яны лічаць, што краіна не выконвае свае абавязкі па сэнсу артыкула 2 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах, паколькі нормы нацыянальнага закону "Аб масавых мерапрыемствах" утрымлівае двухсэнсоўныя і расплыўчатыя нормы, якія могуць тлумачыцца і тлумачацца гарадскімі уладамі па-рознаму.

Леанід Судаленка і Анатоль Паплаўны просяць Камітэт ААН устанавіць факт парушэння іх правоў на свабаду правядзення мірных сходаў і свабоду выказвання меркавання з боку дзяржавы і раіць беларускаму ўраду прывесці закон "Аб масавых мерапрыемствах" у адпаведнасць міжнародным абавязкам.

Нагадаем, што гэта ўжо 128-я скарга, пададзеная грамадзянамі Беларусі ў гэтую уплывовую міжнародную інстанцыю.

**http://gomelspring96.org/**

## *Гамяльчук патрабуе маральнай кампенсацыі ад міліцыі*

Дзяржаўныя органы адхіляюцца ад адказнасці за незаконнае змяшчэнне пенсіянера Міністэрства ўнутраных справаў Уладзіміра Няпомняшчых у ізалятар часовага ўтрымання.

Заяўнік спрабуе спагнаць 9 мільёнаў у якасці кампенасацыі маральнай шкоды за трохсуткавы арышт. Аднак суадказчыкі - Міністрэрства фінансаў і упраўленне ўнутраных справаў Гомельскага аблвыканкама - перакідваюць віну з адной структуры на іншую. На думку праваабаронцы Леаніда Судаленкі пенсіянер МУС Уладзімір Няпомняшчых мае канстытуцыйнае права на спагнанне маральнай шкоды.

**Леанід Судаленка:** - Як пасадзіць спадара Уладзіміра Няпомняшчых, дык пагата ахвотных, а як адказваць, дык няма каму. А калі суд запрасіў абласную ўправу міністэрства ўнутраных справаў, дык яны кажуць, што не распараджаецца дзяржаўнымі грашыма. І спаслаліся на Міністэрства фінансаў. А прадстаўнік Міністэрства фінансаў -- юрыст рэгіянальнай фінансавай управы Сяргей Захарчанка заўважае, што яны могуць адказваць толькі за тыя дзеянні, якія непасрэдна рабілі. А за дзеянні супрацоўнікаў міліцыі несці адказнасць не могуць.

Апазіцыянера і пенсіянера МУС Уладзіміра Няпомняшчых затрымалі ў кастрычніку мінулага году, калі той расклейваў налепкі з запрашэннем прыйсці на Народны сход. Уладзімір Няпомняшчых кажа, што пры змяшчэнні яго ў ізалатар часовага ўтрымання міліцыянты нават не вынеслі адмысловай пастановы.

**Юлія Сівец, Радыё Рацыя, Гомель**